# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 7 (701)
Ліпень 2024 г.


# Купальле ў штаце Нью-Ёрк

На выходныя 22 і 23 чэрвеня 2024 году ў маляўнічай мясьціне Ўард-Паўнд-Рыдж на поўнач ад гораду Нью-Ёрку прайшло традыцыйнае сьвяткаваньне старажытнага абраду Купальля. Удзельнікі пачалі зьяжджацца ад самай раніцы, ставіць намёты, насалоджвацца навакольнай прыродай, водарам траваў і сьпевам птушак.

Кожны ўдзельнік атрымаў ад арганізатараў купальскі кубак і сталовы набор, каб карыстацца падчас імпрэзы. Сьвяткаваньне праводзілася ў закрытым фармаце, і ўдзельнікі абавязваліся падпарадкоўвацца правілам удзелу ў імпрэзе. Арганізатары забясьпечылі ўсіх харчаваньнем і вадой, а таксама вуглём для вогнішчаў і рэпэлентам ад казурак. На абед людзі пад'елі бліноў і былі добра падрыхтаваныя да гульняў і забаваў. Затым усе пазнаёміліся міжсобку. Вядучымі на імпрэзе былі Ганна Шарко, Алена Рыжая і Аляксандар Мазгавы.

Жадаючыя бралі ўдзел у майстар-клясах па беларускіх народных танцах, па пляценьні паясоў і традыцыйных упрыгожваньняў з саломы і ў варажбе на мэтафарычных картах.

Было арганізавана шмат гульняў для дзяцей і дарослых, утварыліся дзьве каманды – "Асілкі" і "Зязюлі", праводзіліся спартыўныя эстафэты і камандныя гульні. Прайшоў Купальскі квіз, на якім была скарыстаная інфармацыя пра сымбалічныя і духовыя асьпэкты сьвята.

Затым людзі падмацаваліся вячэрай, дранікамі з халадніком, і прыбраліся ў сьвяточныя строі. Былі абраныя Купаліш і Купалінка, і пары прайшлі праз браму, сядаючы на лаву і цалуючыся на выхадзе. Карыстаючыся з нагоды, сталы відэограф Купальля зрабіў прапанову сваёй абраньніцы сэрца, зь якой ён пазнаёміўся на Купальлі летась. Дарэчы, вядучая Ганна Шарко сказала, што цэлы шэраг людзей пазнаёміліся тут на Купальлі і пасьля пабраліся шлюбам і сярод іх Пятро і Алена Рыжыя.

Затым Купаліш і Купалінка заклікалі грамаду падрыхтавацца і прамовілі зварот да вышэйшых сілаў. Затым яны падпалілі купальскае вогнішча, у якім быў усталяваны слуп і кола. Удзельнікі пайшлі карагодам і засьпявалі купальскія сьпевы: "А ў нас сёньня Купала", "А хто ня быў на Купальлі" і песьню "Купалінка". Арганізатары распрацавалі крэатыўны і цікавы сцэнар сьвята, дзе інфармавалі гасьцей пра розныя аспэкты абраду Купальля.

Карагоды доўжыліся пакуль не перагарэла вогнішча. Затым нячысьцікі скралі Купалінку, але яе неўзабаве знайшлі. Потым спалілі сымбалічную выяву вядзьмаркі Мары, што шкодзіла людзям. Удзельнікі скакалі праз вогнішча, і пасьля кожны мог спаліць паперчыну зь пералікам тых праблемаў, ад якіх хацеў бы пазбыцца.

Тымчасам тут жа побач гатаваўся традыцыйны напой крупнік на 27-мі травах, і тым, у каго яшчэ была ахвота падсілкавацца, можна было пакаштаваць смачнай ухі ды іншых страваў. Непадалёку ў Магічным лесе працавала Маўклівая дыскатэка (музыка толькі праз навушнікі) з трыма дыджэямі. А каля вогнішча ўсе жадаючыя маглі паўдзельнічаць у Адкрытым мікрафоне і ў сьпевах пад гітару. Затым жадаючыя паехалі купацца на рэчку непадалёку.

Уначы была моцная навальніца, але раніцай ізноў зазьзяла сонейка. Удзельнікі сьвяткаваньня падмацаваліся сьняданкам і з новымі сіламі сустрэлі новы дзень. Прайшла дзэн-будысцкая мэдытацыя "зь беларускім вайбам" і хайкінг – шпацыр па маляўнічых ваколіцах таго месца, дзе праходзіла імпрэза. Яшчэ былі майстар-клясы па пляценьні бранзалетаў і ўоркшап "неспадзяванка", а таксама спартовыя гульні.

Неўзабаве падыйшоў час складаць намёты і разьвітвацца. Усе шчыра дзякавалі арганізатарам і гаспадарам імпрэзы: Ганьне Шарко, Алене і Пятру Рыжым, Аляксандру Мазгавому, Сержуку Саю і ўсёй купальскай каманьдзе, якая добра папрацавала на сьвяткаваньні.

***Віталь ЗАЙКА***



# Нарошчваньне глябальнага кіраваньня

Выбраная група ўплывовых палітычных і грашовых элітаў зьбіраецца штогод, каб вызначыць ходу сусьветных справаў... вы чулі пра яе як Більдэрбэргскую групу. Выглядае, што яны значна менш сакрэтныя, чым былі раней. Яны маюць свой вэб-сайт і публікуюць поўны сьпіс тэмаў, якія абмяркоўваліся на штогадовай канфэрэнцыі, у тым ліку штучны інтэлект, трансгуманізм, Украіну, Расею і Кітай і, вядома, вайну, вайну і яшчэ шмат войнаў.

Нягледзячы на тое, што група ўжо адкрыта гаворыць аб сваёй глябалістычнай праграме, многія ня чулі, што найменш 133 палітыкі былі ўзьведзеныя да ўладных пасадаў пасьля ўдзелу ў сустрэчы Більдэрбэргскай групы, у тым ліку сёнешні прэзыдэнт Францыі Э. Макрон.

Прынамсі 42 удзельнікі сталі альбо прэм'ер-міністрамі, прэзыдэнтамі, альбо вышэйшымі службовымі асобамі міжнародных арганізацый. З 2019 па 2023 гады ва ўсіх ключавых міжнародных арганізацыях – ЕС, НАТА, МВФ і ААН – старшынствавалі сябры Більдэрбэрга.

Сёлета генэральныя дырэктары кампаній, звязаных са штучным інтэлектам, такіх як Google DeepMind, Microsoft AI, Anthropic і Mistral AI, увайшлі ў элітны сьпіс дзелавых і палітычных лідэраў, у які таксама ўвайшлі генэральны дырэктар Citigroup Джэйн Фрэйзэр, былы генэральны дырэктар і старшыня Google Эрык Шміт, генэральны дырэктар Pfizer Альбэрт Бурла, генэральны дырэктар Shell Ваэль Саван і інвэстар Пітэр Тыль.

Група названая ў гонар шыкоўнага гатэля, у якім у 1954 годзе ў Остэрбэку, Нідэрлянды, сабралася першая група сусьветных элітаў і ўплывовых брокераў – Hotel De Bilderberg. Більдэрбэргская група дзейнічала падпольна на працягу многіх гадоў. Іх дыскусіі і любыя рашэньні, прынятыя сёлета ў гатэлі Mirasierra каля Эль-Парда, афіцыйнай рэзыдэнцыі нябожчыка Францыска Франка, прымаюцца ў адпаведнасьці з правіламі Chatham House. Гэта азначае, што інфармацыя можа выкарыстоўвацца, але ні асоба, ні прыналежнасьць дакладчыка ня могуць быць раскрытыя. Але некалькі бясстрашных рэпарцёраў, устрывожаных ростам уплыву групы ў сусьветных справах і кіруемых любоўю да праўды і жаданьнем свабоды, здолелі прабіцца за заслону і зазірнуць унутр іх сакрэтнага анклява.

Даніэль Эстулін – адзін зь іх, і ў сваёй кнізе "Сапраўдная гісторыя Більдэрбэргскай групы" ён паказаў адносіны Трохбаковай Камісіі (Trilateral Commission) і Рады па Міжнародных Адносінах (Council on Foreign Relations) зь Більдэрбэргскай групай. Яны сапраўды ствараюць ценявы ўрад, які рухае сусьветныя падзеі – часам павольна, часам хутка – у кірунку, які дазволіць ім дасягнуць мэтаў Адзінага Сусьветнага Ўраду. Яны валодаюць усёй уладай і багацьцем, і хто не належыць да іхняга эксклюзіўнага клюбу, зьяўляюцца проста іхнімі васаламі.

Нябожчык журналіст Джым Такер 25 гадоў працаваў над тым, каб прыадчыніць заслону таямніцы Більдэрбэргскай групы. У сваёй кнізе "Більдэрбэргскі дзёньнік" 2005 г. Такер прапанаваў чытачам перадгісторыю некаторых прадстаўнікоў магутнай эліты, шчыльна зьвязаных з канфэрэнцыяй. Ён таксама патлумачыў, як група была непасрэдна датычная да стварэньня Фэдэральнай рэзервовай сыстэмы ЗША: "Карані Більдэрбэрга сыходзяць у глыб стагодзьдзяў, калі міжнародныя мяняла таемна маніпулявалі эканомікай, каб узбагаціцца і паняволіць звычайных людзей. Ротшыльды Брытаніі і Эўропы таемна сустракаліся з іншымі фінансістамі на працягу стагодзьдзяў, як і Ракфэлеры ў Амэрыцы".

Біл Клінтан быў "памазаны" на прэзыдэнцтва падчас Більдэрбэргскай канфэрэнцыі ў Бадэн-Бадэне ў 1991 годзе, але Клінтан ня быў ні першым, ні апошнім прэзыдэнтам ЗША, які належаў да Більдэрбэргскай групы. З 1952 году ўсе дзеючыя прэзыдэнты ЗША былі сябрамі CFR або TC або сябрамі Більдэрбэргскага саюзу. Таксама яны прызначалі на дзяржаўныя пасады сяброў гэтых арганізацый.

Більдэрбергская група сустрэлася ў Шанціі летам перад выбарамі 2008 году і выбрала Абаму наступным прэзыдэнтам. Нават Трамп паслаў на сустрэчу сваіх урадоўцаў, у тым ліку сяброў CFR Х. Р. МакМастэра і Крыстафэра Лідэла. МакМастэр быў дарадцам Трампа па нацыянальнай бясьпецы, а Лідэл – дырэктарам па стратэгічных ініцыятывах Белага дому. Навошта было адпраўляць туды гэтых двух балотных істотаў, якіх Трамп нібыта наняў, каб "асушыць" тое балота? Трамп, верагодна, прадстаўляе кантраляваную Більдэрбэргам апазыцыю, ствoранаю, каб разбурыць сыстэму, абвінаваціўшы ў гэтым ягоную нацыяналістычную "кансерватыўную" палітыку.

Эліты займаюцца доўгатэрміновым плянаваньнем і кантралююць абодва бакі ўсіх сусьветных канфліктаў, каб падзеі разгортваліся на іх карысьць. Вось чаму крытыкі Більдэрбэрга прыпісваюць ім таемныя маніпуляцыі міжнароднымі справамі на працягу дзесяцігодзьдзяў, выключаючы ваенныя канфлікты і барацьбу паміж некаторых групамі насельніцтва. Некаторыя людзі лічаць, што члены Більдэрбэрга асабліва зацікаўленыя ў глябальных эканамічных маніпуляцыях і нават удзельнічаюць у выбары кандыдатаў на прэзыдэнцкія выбары ў ЗША.

Вы наўрад ці ўбачыце якія-небудзь навіны пра Більдэрбэргскую сустрэчу, калі глядзіце асноўныя навіны ў масмэдыя. Галоўныя СМІ на працягу многіх гадоў былі прадстаўленыя на сустрэчах Більдэрбэргскай групы, але дэманстратыўна ўстрымліваліся ад асьвятленьня сустрэчаў. Гэта робіцца наўмысна. Вось цытата, якую некалькі крыніцаў прыпісваюць Дэвіду Ракфэлеру ў 1991 годзе на Більдэрбэргскай сустрэчы ў Бадэн-Бадэне, красамоўна гаворыць аб мэтах Більдэрбэргскай групы: "Мы ўдзячныя The New York Times, Washington Post, часапісу Time і іншым выдатным выданьням, чые дырэктары наведвалі нашыя сустрэчы і паважалі свае абяцаньні разважлівасьці на працягу амаль сарака гадоў. Для нас было б немагчыма распрацаваць наш плян, калі б сьвет ведаў пра яго ў тыя гады, але сёньня сьвет больш дасканалы і гатовыісьці да сусьветнага ўраду. Наднацыянальны сувэрэнітэт інтэлектуальнай эліты і сусьветных банкіраў, безумоўна, важней нацыянальнай палітыкі мінулых стагодзьдзяў".

Ці магчыма, што такія важныя людзі маюць некалькі дзён, каб сядзець бяз справы і расказваць пра сусьветныя праблемы, як куча пляткарак у мясцовай кавярні? Наўрад ці. Вось чаму сьцвярджэньні з афіцыйных дакумэнтаў Більдэрбэргскай групы аб тым, што яны не прымаюць рэзалюцый, не галасуюць і ня робяць палітычных заяваў, выклікаюць сумнеў. Асабліва праз 70 гадоў.

Яны ня маюць нічога, каб паведаміць грамадзтву, але можаце не сумнявацца, што за зачыненымі дзьвярыма – якія зачыненыя для ўсіх, акрамя нешматлікіх выбраных, і ахоўваюцца камандаю бясьпекі, якая зробіць сакрэтную службу любой краіны падобнай на купу дылетантаў – прымалася шмат рашэньняў адносна будучых сусьветных падзеяў.

Безумоўна, знойдуцца тыя, хто скажуць, што няма доказаў таго, што Амэрыцы пагражае паглынаньне сусьветнай супольнасьцю пад эгідай ААН ці нейкага яшчэ створанага агенцтва. Але гэта было б адмаўленьнем элемэнтарных фактаў. І, дарэчы, прыкладна тое ж самае казалі пра ЭС у той час, калі ён ствараўся. Эліты ня робяць нічога радыкальна, а толькі паступова. Паступовасьць – гэта іхняя гульня. Яны цярплівыя, але падступныя і рашучыя хлусы.

Пасьля ўсіх абдымкаў, радасьці і пляскаваньня па сьпіне ў Гішпаніі, глябалісты зноў узмацніліся, і рух да глябальнага кіраваньня стане яшчэ моцнейшым.

***Б. Л.***

# Сустрэча зь пісьменьнікам Віктарам Марціновічам

У чэцьвер, 30 траўня, у Хантэр-каледжы на Мангэтане адбылася сустрэча зь беларускім пісьменьнікам Віктарам Марціновічам, што піша па-расейску і па-беларуску і знаходзіцца ў Нью-Ёрку на стыпэндыі Фулбрайта, як візытуючы прафэсар.

Невялікая аўдыторыя была запоўненая амаль цалкам, некаторыя наведнікі прыляцелі нават з іншых штатаў. Сустрэча была арганізаваная дабрачынным праектам "Тамыздат", што прадстаўляе забароненыя кнігі з Саветаў і Ўсходняй Эўропы. Вёў сустрэчу супрацоўнік праекту і выкладчык Хантэру, прафэсар Якаў Клоц. Сустрэча была прадстаўленая ў трох частках – лекцыя, аўтарскае чытаньне і адказы на пытаньні.

Назва лекцыі была досыць нязвыклая, як для беларускага аўтара: "Чаму Піфія прадказвала будучае ў храме Апалёна?" Напачатку імрэзы сп. Якаў Клоц прадставіў прамоўцу, рэкамэндуючы яго як пісьменьніка з шэрагам твораў, што выйшлі па-расейску і па-беларуску і таксама ў перакладах. Віктар Марціновіч, выпускнік факультэту журналістыкі БДУ, працаваў у штотыднёвіку "Беларуская Газэта". Таксама займаўся дасьледамі ў галіне гісторы мастацтва, абараніў дысэртацыю "пра Шагала" ("Віцебскі авангард (1918—1922): сацыякультурны кантэкст і мастацкая крытыка") у Віленскай мастацкай акадэміі, выкладаў у ЭГУ. Першы раман, які завецца "Параноя", быў напісаны па-расейску ў 2009 г., ён выйшаў у Расеі, і лічаць, што на яго была накладзеная забарона ў Беларусі. Раман заўважылі, у тым ліку на Захадзе – у 2010 годзе была апублікаваная рэцэнзія гісторыка і публіцыста Тыматы Снайдара. Другі раман ("Сьцюдзёны вырай", 2011) быў напісаны па-беларуску і выйшаў у "авангардным" фармаце – як сеціўны прэс-рэліз. Затым выйшаў крымінальна-камічны раман "Сфагнум" (2013), антыўтопія "Мова" (2014), раман пра "маленькага чалавека" "Возера радасьці" (2016), па якім потым быў зьняты фільм у 2019 г. Наступным быў раман-гульня "Ноч" (2018), і раман-роздум "Рэвалюцыя" (2020), які быў напісаны перад уздымам таго году, але ён быў неўзабаве забаронены рэжымам Лукашэнкі, найверагодней дзеля назвы, а ня зьместу. Віктар Марціновіч стаў ляўрэатам шэрагу прэстыжных прэміяў, крытыкі ўважаюць яго за сапраўднага прадстаўніка "сур'ёзнай", "прафэсійнай" літаратуры, што "расьце ад твора да твора".



Віктар Марціновіч павітаў прысутных і пачаў сваю лекцыю са сьцьверджаньня, што ён належыць да "зьнікаючага віду" – бо стаў пісьменьнікам, у часы калі людзі перастаюць чытаць, і ня проста пісьменьнікам – але тым, што піша на экзатычнай беларускай мове з абмежаванай аўдыторыяй. Тут варта адцеміць, што на дадзенага пісьменьніка відавочна ўплываюць чыньнікі культурна-эканамічныя, бо большасьць ягоных твораў або напісаная па-расейску, або выйшла адначасна па-беларуску і па-расейску, або была неўзабаве перакладзеная на расейскую і апублікаваная ў расейскіх выдавецтвах.

Пры ўсёй трагічнай позе выглядае, што аўдыторыя пісьменьніка сягае як мінімум на ўвесь абсяг т. зв. "расейскага сьвету". Матывы драматычнага павароту цывілізацыі ўбок ад чытаньня прасякаюць творы аўтара, але ягоная скруха выглядае на драбок перабольшанай. Прамоўца адзначыў, што ягоная адзіная кніга, выдадзеная па-ангельску, была перакладзеная з расейскай. Затым былі закранутыя праблемы перакладу літаратурных твораў зь беларускай мовы, і таксама праблемы пошуку перакладчыкаў на ангельскую. Бо калі няма перакладаў, пісьменьнік застаецца невядомым, і праз тое сказаныя на забыцьцё. Прамоўца адзначыў мову як вызначальны элемэнт тоеснасьці й сымболь прыналежнасьці, але гэта кепска пасуе да ягоных крокаў і выбару пры публікацыі ўласных твораў.

Затым Віктар Марціновіч прачытаў урыўкі з сваіх твораў "Мова" і ""Параноя", на мовах арыгіналаў (беларускай і расейскай) і на мове ангельскай. Прамоўца згадаў, што аснову перакладу гэтага ўрыўку на ангельскую мову склаў пераклад, зроблены з дапамогай штучынт-пляцформы ChatGPT (штучынт – штучны інтэлект, AI). Тэмай разгляду стала этыка мовы, і прамоўца адзначыў, што ў той час як беларуская незалежнасьць не выклікае сумлеваў, да панаваньня ў Беларусі прыйшла іншая мова, і гэта ставіць перад грамадзтвам шэраг пытаньняў. Але, па словах аўтара, "Мова" – гэта ня самы трагічны ягоны раман.

Потым зайшла гутарка пра раман "Параноя", і аўтар падзяліўся з прысутнымі сваім падзівам з праўдчай, віжовай кампанэнты раману, якая канешне ж не была наўмыснай, а вывелася з усёй лёгікі цяперашняй беларускай сытуацыі, і гульня КГБ з галоўнымі героямі неўзабаве была пераўзыйдзеная драматычнай пасадкай рэйсу "Раян Эйр" у Менску.

Затым сп. Марціновіч адказаў на пытаньні. Першае было ад псыхааналітыка: "Чаму і што змусіла напісаць усе гэтыя жахлівыя рэчы?" – "Напэўна гэтаму спрыяла нешта надзвычай істотнае ва ўласным досьведзе, разьдзёртая краіна, шэраг уласных траўмаў. У часы, якія жывем, цяжка было б чакаць іншых тэмаў. Але аптымістычныя ідэі трэба трымаць асобна і працягваць пошукі праўды. Тут, дарэчы, у гульню ўступае фаюмскі партрэт, выява маладога чалавека з кшталту пахавальных партрэтаў эліністычнага і рымскага Эгіпту ў тэхніцы энкаўстыкі, што загадкава высіўся над прамоўцам на сьцяне ўвесь вечар, спраецыраваны праз дыяпраектар. "Праўда параўнальная да ўзіраньня – вось як узіраньне на гэты партрэт. Гэтая праўда, надзвычай відавочная – рэалістычны, у нейкі момант рэвалюцыйны, а можа і скандальны стыль фаюмскіх пахавальных выяваў. Праўда – добра. Але пра якую праўду тут ходзіць?

А ходзіць, на думку прамоўцы, пра тую праўду, што ў творах старагрэцкіх філязофаў завецца алетэя або аголенасьць, раскрываньне пакроваў. "Пачынаю пісаць толькі калі я адчуваю, што

*заканчэньне на бачыне 4*

# Сустрэча з В. Марціновічам

*заканчэньне з бач. 3*

знаходжуся ў пошуках алетэі – толькі тады.” Затым аўтар зноў правёў аналёгію паміж ягоным прадчуваньнем і падзеямі 2020 і 2021 гг., што пераўвасобілася ў мастацкім сюжэце і таму так драматычна захапіла яго самога, калі даведаўся пра гвалтоўную пасадку рэйсу “Раян Эйр” у Менску.

Затым прамоўца выказаў сваю думку на тое, чаму нам патрэбнае мастацтва, і якую функцыю яно выконвае. Ён узгадаў клясычную культуру, старажытную міталёгію й філязофію, успамніў наведаньне важных для культуры мясьцінаў, храмаў і выяваў, якія былі выкліканыя візытам у храм Эпідаўра ў Грэцыі і ўласнае перажываньне катарсісу. Ён тады зразумеў, што ўвесь сэнс мастацтва там быў тэрапэўтычны. І вось алетэя, раскрываньне – гэта тое, што знойдзенае пад пакровамі, усьведамленае праз пачуцьці, асязаньне й зрок – пасьля таго, як яно было ўяўленае, прадбачанае праз абстрактныя выбудовы ў сьведамасьці. І задачай мастацтва, літаратуры якраз і ёсьць тое ўсьведамленьне й прадбачаньне.

Пасьля сп. Марціновіч спыніўся на аспэктах клясычнай рэлігійнай практыкі і на працэсе заняпаду аракулаў у Грэцыі. Ён адзначыў, што менавіта летуценьнік Апалён пераважыў моц і ўплывовасьць Зэўса, калі Піфія-прадказальніца ў Дэльфійскім храме, менавіта прысьвечаным Апалёну, абвяшчала як будучыню менавіта тое, што сказаў ёй Апалён, патрон мастацтваў, а не ўсемагутны Зэўс. Адзначым, што на гэтым і палягае сэнс назвы лекцыі, як і наагул ідэя пра тое, што “пяро мацнейшае за меч”.

Затым аўтар распавёў пра свае раманы “Ноч” і “Рэвалюцыя”, адзначыўшы, што першы закранае тэму спасьціжэньня зьнешняга сьвету і пераадоленьне страху, а другі – тэму заўсёднае чалавечае прагі падпарадкаваньня. “Рэвалюцыя” стала папулярнай у 2020 годзе, але няясна, ці ўсе зразумелі яе тады. Затым у 2021 годзе ў Беларусі кнігу забаранілі, і ўсе асобнікі яе былі канфіскаваныя. “Калі амоны зрабілі рэйд на “Кнігаўку”, падумалася пра іншасказаньне, пра казку, пра прыпавесьць для дзяцей. Так паўстала ідэя “Хлопчыка без хваста”, гісторыі пра пост-чалавечы сьвет.

Затым было пытаньне пра тое, як аўтар прыйшоў да жанру дыстопіі – праз “Алісу ў Залюстроўі”, “Фарэнгайт 451” і Оруэла. Аўтар зноў закрануў крызіс літаратуры і паступовы заняпад міжнародных выдавецкіх дамоваў, што вялікія пісьменьнікі сыходзяць у пісаньне кінасцэнароў.

На наступнае пытанне пра культуру ў дыяспары й у краі Віктар Марціновіч адзначыў, што цяпер чытач у Беларусі зьмяніўся, “калі амаль уся твая аўдыторыя эміґравала”. “Дык значыць вы пішаце не для тых, што засталіся ў Беларусі?” – “Я пішу для нейкіх уяўленых чытачоў, якіх, пэўна, насамрэч пакуль не існуе”. Прафэсар Гапава спытала, ці лічыць ён, што ў Беларусі цяпер існуе дзьве культуры? – “”Мы заўсёды мелі дзьве культуры. Культура тых, што “зьбеглі” – ня тое самае, што афіцыйная культура. Мы пішам цяпер для нейкага страчанага пакаленьня, і наўрад ці тыя дзьве часткі сыйдуцца разам, зьяднаюцца”. “Але там засталіся 9 мільёнаў народу, ці ёсьць там добрыя аўтары, добрыя праявы культуры?” – “Ходзіць не пра якасьць прадукцыі, але пра этыку, праўдзівасьць”.

“Наколькі палітыка прысутная ў вашых творах?” – “Яны і прасякнутыя палітыкай, і не; усё адкрытае для трактоўкі й герменэўтыкі”.

“Дзе вы цяпер жывеце?” – “Я жыву ў Гарлеме. Гэта як раён Аўтаз (Аўтазавод) у Менску, падобная эстэтыка, падобны настрой. Тут ёсьць тэатар “Апола” – гэта як ДК МТЗ. “Наагул я засяроджаны на філязофіі культуры. За ўсё часы ў мастацкай літаратуры ўсё ўжо было паднята на сьвятло і апісана, зафіксавана. Пэўныя рэчы не зьмяняюцца. Скажам, у Караткевіча, па сьведчаньнях сучасьнікаў, былі мяхі неапублікаваных рукапісаў – і вось яны застаюцца неапублікаваныя дасюль, хоць ня стала СССР, утварылася РБ – а тыя манускрыпты так і ня сталі кнігамі. Караткевіча і цяпер замоўчваюць, бо пісаў пра Каліноўскага, барацьбу беларусаў супраць расейцаў”.

Затым В. Марціновіч сказаў, што перастаў пісаць па-беларуску. Найперш прычына прагматычная – цяпер засяроджаны на перакладзе сваіх твораў на заходнія мовы, а для гэтага іх перш трэба перакласьці па-расейску, бо ніхто, за драбнюткім выключэньнем, беларускай мовы й спэцыфікі ня ведае. “Спадзяюся, нешта зьменіцца з новай генэрацыяй перакладчыкаў, бо цяпер мы абсалютна выключаныя з сусьветнай культуры. Таму што калі цябе няма па-ангельску ці на асноўных мовах сьвету – значыць, цябе рэальна няма”. “Сакрэт папулярызацыі літаратуры – ствараць добрыя гісторыі, наратывы, і перакладаць па-ангельску. Перакладаньне – гэта ня толькі пра існаваньне літаратуры, але і самой Беларусі. Таму варта, каб кожны з вас тут падумаў, узяў кавалак тэксту, пераклаў і адаслаў выдаўцу. Тое што колькасьць пяройдзе ў якасьць, то бок мэтадычнасьць, больш пераконвае, чым раптоўнае зьяўленьне зацікаўленых ратаўнікоў-перакладчыкаў...”

Нягледзячы на часам праступаючы пэсымізм прамоўцы, сустрэча ўдалася, былі закранутыя адвечныя пытаньні: пра сілу слова, пра карысьць мастацтва, і што ёсьць праўда – і як гэта рэзануе ў сучаснай беларусай сытуацыі і ў творах самога В. Марціновіча. Цікавым быў экскурс у клясычную (антычную, грэкарымскую) культуру, якой так бракуе, на думку аўтара гэтых радкоў, у сучасным беларускім кантэксьце, але якая займала сталае месца ў культуры Вялікага Княства Літоўскага. Разам з тым успрыняцьце – рэцэпцыя, і узус – ужываньне антычнай культуры і маім пакаленьнем, і пакаленьнем Віктара Марціновіча адбывалася па расейскіх шаблёнах, праз расейскія пераклады і з расейскімі “гуру” кшталту Лосева і Аверынцава, што ў абстрактным сэнсе хіба і някепска, але на практыцы гэта падмяніла стварэньне беларускага асяродзьдзя для клясычнай культуры, выключыла тараваньне сваіх уласных сьцежак у клясыцыстыцы і праз тое крытычна абмежавала разьвіцьцё беларускай культуры наагул. І гэта напэўна таксама прадбачыла (спадзяюся, з сумам) Піфія ў Дэльфійскім храме Апалёна.

**Віталь ЗАЙКА**

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**“Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**А. Хаменка ...............60**

**Шчыры дзякуй!**

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**А. Адамчык ..............30**
**В. Якімовіч ..............30**

**Усім шчыры дзякуй!**